


# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.*

№ 22 (103). 27 траўня — 2 чэрвеня 1999 г. **Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах.** Кошт 25.000 руб.


## ЖЫРОВІЦКІЯ ПАЛОМНІКІ



Фота Мікалая СУПРУНА

**20 траўня адзначалася штогадовае свята цудатворнага Жыровіцкага абраза Маці Божай.**

**(Працяг тэмы на стр.3)**

## Снова подорожал проезд

**С 20 мая в Слониме повысились цены на проезд в городском транспорте.**

Об этом сообщила корреспонденту "ГС" заместитель директора по перевозкам автопарка №3 Валентина Жук. Стоимость одной поездки в автобусе повысилась с 4 до 6 тысяч рублей. Проездной месячный билет будет стоить 260 тысяч рублей, льготный — 130 тысяч.

При этом Валентина Владимировна подчеркнула, что провоз багажа будет стоить 12 тысяч рублей, а штраф за безбилетный проезд в автобусе составит 500 тысяч рублей.

**Сергей ЧИГРИН**



**ПРАБЛЕМА**

## Бульбяная крыўда

У рэдакцыю "ГС" звярнуліся са скаргай жыхаркі вёскі Байкі Слонімскага раёна Валянціна Раўко і Антаніна Сай. Яны паведамілі, што ні калгас "1 Мая", на тэрыторыі якога яны жывуць, ні ПМК-53 Зэльвенскага раёна, дзе яны раней працавалі, не жадаюць дапамагчы ім пасадзіць бульбу. Па словах жанчын, калгас адмовіў ім па той прычыне, што яны ніколі не працавалі ў калгасе. А ў ПМК-53 не выдзелілі бульбасаджалку, матывуючы гэта тым, што пенсіянеркі жывуць на тэрыторыі іншага раёна.

Старшыня калгаса "1 Мая" Антон Дабрэнка паведаміў карэспандэнту "ГС", што ў сувязі са зношанасцю тэхнікі і недахопам механізатарскіх кадраў, сход упаўнаважаных прадстаўнікоў вытворчых участкаў гаспадаркі прыняў рашэнне дапамагаць садзіць бульбу толькі членам калгаса і пенсіянерам, якія раней працавалі ў гаспадарцы. А некалгаснікам бясплатна будзе выдзяляцца гужавы транспарт.

Начальнік аддзела кадраў ПМК-53 Клаўдзія Кірцун сказала, што жыхары Байкоў толькі 25 траўня падалі заявы аб выдзяленні ім бульбасаджалкі. Яна запэўніла, што, як і раней, гэтым людзям прадпрыемства дапаможа пасадзіць бульбу.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## ПОХИТИТЕЛИ СВЕТА

**1 млн. 141 тыс. кВт/ч электроэнергии было похищено у государства в прошлом году. По словам заместителя начальника района электросетей Анны Армяновской, этого количества электроэнергии вполне хватило бы для нормальной работы Слонимского авторемонтного завода на протяжении четырех месяцев.**

На нарушителей было составлено 313 актов, а сумма штрафов составила 1 млрд. 280 млн. руб.

— Практически получается так, — говорит Анна Сергеевна, — что контролер появляется в каждой квартире не чаще одного раза в полгода, и тем не менее, встречают их люди весьма недружелюбно.

Анна Армяновская отметила, что самая большая проблема на сегодняшний день — это неплатежи за электроэнергию и ее воровство. К примеру, в зимнее время оплата за пользование электроэнергией на селе составляет всего 60%, а в летние месяцы — едва достигает 40%. Поэтому электростанции не в состоянии своевременно закупить газ и мазут для нормальной работы. Армяновская также отметила, что тарифы на потребляемую энергию уже давно не менялись. И те 850 рублей за 1 кВт/ч электроэнергии, которые оплачивает население, далеко не соответствуют действительным расходам на производство электричества. И, тем не менее, есть люди, которые не хотят платить за энергию и по такой цене.

Например, Наталья Якименко с улицы Чапаева задолжала государству почти 12,5 млн. руб., 9 млн. 872 тыс. задолжала Любовь Игнатик с улицы Подлесной. Не желает платить за электроэнергию и Валентин Жилин с улицы Пушкина. За неуплату должники были отключены от сети, но всякими путями самостоятельно вновь пытаются подключиться к линиям.

На 15 злостных неплательщиков за электроэнергию материалы были направлены в суд. Но, к сожалению, через некоторое время в электросеть поступают из суда акты о невозможности взыскания задолженности по причине неплатежеспособности людей. И на этом, практически, все и заканчивается.

А таких злостных неплательщиков за 1998 год зарегистрировано более 100 человек.

**Валентин ЧУРИЛО**

## Мастоўскі суіцыд

**За дзень да свайго 50-годдзя скончыў жыццё самагубствам дырэктар Галубоўскай сярэдняй школы Мастоўскага раёна.**

На гэтай пасадзе ён працаваў больш дзесяці гадоў. Напярэдадні школу наведала камісія санэпідэмстанцыі. Потым прадстаўнік раённага аддзела адукацыі выказаў у адрас дырэктара шмат крытычных заўваг у прысутнасці настаўнікаў. Пасля гэтага дырэктара знайшлі павешаным.

**Антон МАКЕЙ**

## ЗНІКЛІ ЛЮДЗІ

**Ужо амаль 17 сутак бацькі і міліцыя шукаюць слонімцаў Віталя Хамякова і Анатоля Фідрыка. Апоўначы 9 траўня яны пайшлі з невядомай дзяўчынай з дыскатэкі "Оскар" і да сённяшняга дня іх месцазнаходжанне невядома.**

Бацька Фідрыка — Анатоль Віктаравіч паведаміў карэспандэнту "ГС", што яго сын па характару спакойны і ні з кім ніколі не сварыўся. Два месяцы таму прыйшоў з войска і рыхтаваўся да паступлення ў інстытут. За дзень да знікнення разам з бацькам працаваў на лецішчы. Вечарам 8 траўня Анатоль вырашыў разам за сваім сябрам Віталем Хамяковым наведаць дыскатэку "Оскар", для чаго запытаў у бацькі 100 тысяч рублёў. Ніякіх іншых грошай і каштоўнасцяў у хлопца не было. З таго часу Фідрыкі свайго сына больш не бачылі.

Падобная сітуацыя і ў Віталя Хамякова.

Просьба да ўсіх грамадзян, якім што-небудзь вядома пра месцазнаходжанне Віталя Хамякова і Анатоля Фідрыка, паведаміць у Слонімскі ГРАУС па тэлефонах: 02, 2-44-02, 2-18-02.

Міліцыя гарантуе ананімнасць вашых паведамленняў.

**Прыкметы прапаўшых.**



Хамякоў Віталь, 22 гады. Быў адзеты: куртка ўкарочаная, са скуры карычневага колеру, кашуля і штаны джынсавыя, майка белага колеру, красоўкі белага колеру фірмы "Адзідас".



Фідрык Анатоль, 21 год. Быў адзеты: укарочаная куртка са скуры карычневага колеру, кашуля і штаны чорнага колеру, карычневыя скураныя туфлі.

**ВСТАТЬ! СУД ИДЕТ**

# ОНИ В ШКОЛУ НЕ ПОШЛИ

Недавно в Слонимском суде состоялся процесс над тремя 15-летними подростками. Двое из них, Григорий и Евгений сидели на скамье подсудимых в зале, а третий – Сергей, словно загнанный зверек, находился в металлической клетке и изредка поднимал голову, когда надо было отвечать на вопросы суда. Все трое, учащиеся 9 класса одной из городских школ города, обвинялись в совершении групповой кражи.

А началось все с того, что ребята не шли на занятия в школу, а направлялись на рынок, в магазин, где проводили время в свое удовольствие. А какое же удовольствие без денег? Тех "карманных" рублей, что выделяли родители, подросткам явно не хватало.

22 октября 1998 года Сергей и Григорий в очередной раз не пошли в школу, а через отверстие в ограде проникли на территорию мясокомбината и затем в спортзал. Позанимавшись в свое удовольствие на снарядах, Сергей и Григорий зашли в раздевалку. Невзначай они заглянули в соседний шкаф, где висела куртка. Не долго раздумывая, дружки обыскали ее карманы и обнаружили пухлое портмоне. В считанные минуты воришки покинули спортзал и через минут двадцать уже пересчитывали на берегу Щары его содержимое. Добыча оказалась неплохой: 100 немецких марок, 20 долларов и 3 миллиона рублей. Всю валюту они обменяли на городском рынке.

Рубли дружки поделили по-братски и потратили на посещение бильярдной, что в районном доме культуры. Но деньги закончились, а иметь их хотелось. Тогда друзья разработали новый план добычи денег. Для его реализации подключили своего одноклассника Евгения.

Ранее они часто бывали в квартире своего одноклассника Володи Боровика. Вместе слушали музыку, обсуждали школьные проблемы. Видели, что холодильник полон хороших продуктов, спиртного. Однажды заметили, что в шкатулке лежит запасной ключ от входной двери квартиры Боровиков. У Сергея возник дерзкий план, с которым он поделился с приятелями: тайно взять ключ и изготовить из него дубликат. Так и сделали, а ключ незаметно вновь положили на прежнее место. Затем они подождали подходящего случая. В тот день в школе не было урока физкультуры, и троица решила посетить квартиру Володи. Для убедительности друзья позвонили в квартиру по телефону. Трубку никто не поднял. Тогда они уверенно направились в подъезд. Обследовав одежный шкаф, нашли 1 миллион белорусских рублей, в холодильнике взяли банку черной икры, несколько бутылок водки и шампанского. Сложив все в пакет, воришки быстро направились в школу. Первым делом решили отведать шампанского и зашли в школьный туалет. В суде ребята сказали, что банку с икрой выбросили, не сумев ее открыть. Оставили в туалете и бутылку недопитого вина.

Мама Володи Боровика рассказала в суде, что в тот же вечер угощала дружков чаем и конфетами, а они без тени смущения смотрели ей в глаза и улыбались. Спустя два месяца таким же образом вновь тайно посетили уже знакомую квартиру. На этот раз их добыча была покрупнее: видеоаппаратура, лазерные диски, золотые серьги, детская электронная игра и 1 доллар. Все это они спрятали в одном из подвалов на улице 17 Сентября. Этот склад обнаружила милиция. Всех троих суд приговорил к трем годам лишения свободы с отсрочкой исполнения приговора сроком на два года.

**Валентин ЧУРИЛО**

**НАВІНЫ**

## Папярэдзілі

**У Мастах адбыўся суд над Язэпам Палубяткам і Міхасём Гладухавым, на якіх 16 траўня падчас прэзідэнцкіх выбараў былі складзены пратаколы за стварэнне выбарчых установаў на ўласных кватэрах.**

Пасля высвятлення абставін справы суддзя Герасімчык вынес абодвум вуснае папярэджанне.

**Антон МАКЕЙ**

## Дэпутат Еўрапарламента ў Слоніме

**25 траўня Слонім наведаў старшыня Сацыялістычнага інтэрнацыянала, дэпутат Еўрапарламента спадар Коні Фрэдрыксан.**

Ён сустрэўся з кіраўніцтвам мясцовай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада), пазнаёміўся з яе дзейнасцю. Старшыня Сацыялістычнага інтэрнацыянала ў гэты ж дзень наведаў і Масты. Інтэрв'ю са сп. Фрэдрыксанам будзе змешчана ў наступным нумары "ГС".

**Сяргей ЁРШ**

## Вярнуліся "Веды"

**У Дзятлаве зноў створана раённае таварыства "Веды".**

Усе яго кіраўнікі пакуль працуюць на грамадскіх пачатках.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## "Каскад" трымаў справаздачу

**У раённым доме культуры адбыўся справаздачны канцэрт эстрадна-спартыўнага танца "Каскад" на званне "узорны".**

Кіруе ім Зоя Петроўская. Акрамя танцораў у канцэрце прымала ўдзел студыя эстраднай песні "Шанс" з восьмай сярэдняй школы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Ожидается рост цен

**Ученые Научно-исследовательского экономического института Министерства экономики Беларуси опросили более двухсот руководителей предприятий, представляющих основные отрасли промышленности страны.**

Отвечая на вопрос, какие изменения ожидаются на производстве в ближайшие два-три месяца, большинство представителей директорского корпуса (73%) указали на рост средних цен на продукцию их предприятий.

**БелаПАН**

## Суд удовлетворил иск бывшего тракториста

**110 миллионов рублей удалось отсудить у колхоза имени Калинина Ганцевичского района Брестской области бывшему трактористу хозяйства Сергею Железному за ущерб, нанесенный его здоровью.**

Летом 1995 года 44-летний механизатор во время работ получил тяжелую травму – перелом позвоночного позвонка с повреждением спинного мозга. В результате, Сергей Железный стал инвалидом I группы, по сути, переложив на жену заботы о хлебе насущном для пятерых детей. Денежное пособие от колхоза инвалид получал нерегулярно, администрация хозяйства даже не сочла нужным выплатить пострадавшему 5 миллионов рублей, сумму, которую собрание колхозников назначило выдать Сергею из колхозной кассы на лекарства. Поскольку попытки найти правду у властей успехом не увенчались, родственники инвалида обратились в правовой информационный центр Белорусского конгресса демократических профсоюзов, который находится в Бресте. Благодаря юридической помощи, которую им оказали в центре, удалось предъявить иск колхозу в размере 980 миллионов рублей. Суд удовлетворил иск и оценил моральный ущерб в размере 110 миллионов рублей.

Тогда была подана кассационная жалоба, так как потерпевшие были не согласны с тем, что первоначальная сумма иска уменьшена почти в девять раз. Вместе с тем, и эту сумму колхоз выплатить не в состоянии: на счету у хозяйства во время разбирательства находилось лишь полтора миллиона рублей.

**БелаПАН**

## Очередной декрет

**Вступил в силу декрет президента Беларуси «О некоторых мерах по недопущению искажений данных государственной статистической отчетности», который устанавливает ответственность должностных лиц за представление искаженной статотчетности.**

Так, в частности, представление искаженных данных государственной статистической отчетности, несвоевременное представление или уклонение от представления отчетности органами государственной статистики (если в этих действиях нет состава преступления) влечет наложение штрафа в размере от 50 до 100 минимальных заработных плат. Те же действия, совершенные повторно после наложения взыскания, повлекут наложение штрафа на должностных лиц в размере 150-300 минимальных зарплат.

**БелаПАН**

## Спявае, нібы салавейка

**Ганна Панько з Дзятлава прымала ўдзел у абласным фестывалі нацыянальных культур.**

Яна выконвала украінскія песні. Журы вылучала спявачку на рэспубліканскі фестываль, які хутка адбудзецца ў Мінску.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

**СЛОНІМ. НАШЫ ЛЮДЗІ**





Фота Міхала СУПРУНА

**ЗДАРЭННІ**

## Настаўніцу абакралі ў школе

**У міліцыю звярнулася настаўніца СШ №3.**

Яна паведаміла, што з яе сумачкі, якая знаходзілася ў адным са школьных пакояў, зніклі 2,5 млн.руб.

## Наваражылі...

**Днямі дзве варажбіткі прапанавалі навучэнцы ПТВ-189 "зняць сурокі".**

Завёўшы дзяўчыну за рэстаран "Шчара", яны падманным шляхам адабралі ў яе ўсе залатыя рэчы: завушніцы, пярсцёнак і ланцужок. Пасля гэтага жанчыны зніклі.

## Падпіў, улючыў, заснуў...

**У мінулую суботу жыхар Слоніма, што жыве на Зялёнай вуліцы, на добрым падпітку ўключыў электрапліткy і заснуў.**



Суседзі своечасова выклікалі пажарных, якія вынеслі небараку з агню.

## Крышталь у мяшку не ўтоіш...

**Сярод белага дня раней судзімы слонімец Я. залез у кватэру дома на Брэсцкай вуліцы і ўкраў 4 крышталёвыя вазы, агульным коштам 5 млн. руб.**

Скарыстаць крадзенае зладзей не паспеў, бо хутка быў затрыманы міліцыяй.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Загінула дзяўчынка

**Непадалёку ад вёскі Засецце Дзятлаўскага раёна адбылася аварыя.**

Легкавы аўтамабіль сутыкнуўся з грузавікам. Загінула трынаццацігадовая дзяўчынка, вучаніца Жукоўшчынскай сярэдняй школы, якая ехала ў легкавушцы разам з дарослымі.

## Абрабавалі магазіны

**Невядомыя ўзламалі дзверы магазіна, што ў вёсцы Галаўлі Дзятлаўскага раёна, і ўкралі шмат тавараў.**

Неўзабаве такім жа чынам быў абрабаваны і магазін у суседняй вёсцы Ракевічы.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Юрыдычны адрас: г.Слонім, Брэсцкая,109/12
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас для пісем: 231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі..........2-14-39
..........(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 25 траўня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 7.200 экз.
Заказ № 1507

E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://www.irex.minsk.by/gs

 



# ЖЫРОВІЦКІЯ ПАЛОМНІКІ

**20 траўня адзначалася штогадовае свята цудатворнага Жыровіцкага абраза Маці Божай. З гэтай нагоды ў слонімскую вёску Жыровічы з'ехаліся тысячы паломнікаў з усёй Беларусі і з замежжа. З некаторымі паломнікамі мы пагаварылі, распыталі, што значыць для іх гэта свята.**





***Людміла Дым*** (Бяроза): – Прыехала сюды разам з сям'ёю. Мы тут ужо не першы раз... Для веруючых гэта вялікае свята. У гэты дзень душа кліча ў Жыровічы.

***Надзея Ільінічна*** (Слонім): – Можа я і не вельмі веру-



ючая, але на гэта свята вера мая ўмацоўваецца. Штогод езджу сюды памаліцца, паставіць свечку ў храме, папрасіць Бога, каб дараваў нам грахі нашы, каб жыццё палепшылася.

***Фаіна Чайка*** (Брэст): – Сёння прашу Багародзіцу даць розуму, здароўя. Я тут ужо не першы раз. У 1997 годзе была на свяце цудатворнага Жыровіцкага абраза Маці Божай і ачуняла ад цяжкай хваробы. Тады да мяне прыйшло натхненне і я пачала пісаць вершы:

"... Воля Господа велика.
Я стою на коленях пред ним.
К покоянью стремится душа.
Подарю ее детям своим".

***Паша і Анюта*** (Мінск): – Ехаць было



далекавата, сёння яшчэ і будні дзень... Але прыехалі. У Жыровічах на гэтым свяце мы ўжо другі раз. Нас вельмі цікавяць беларускія традыцыі, святыні, а Жыровіцкі цудадзейны абраз – найвялікшая святыня Беларусі. Іншых такіх няма...

***Святлана Жук*** (Дзяржынск): – Я настаўніца гімназіі, вось прывезла сваіх вуч-



няў – два сёмых класы. Вельмі хацелі сюды трапіць. Дзякуй дырэктару, што дазволіў, дапамог заказаць аўтобус... Вельмі добра, калі дзеці далучаюцца да народных традыцый, культуры, рэлігіі...

***Зоя Уладзіміраўна Дуброўшчык*** (Гродна): – Раней сюды ездзіла мая мама, расказвала мне пра Жыровіцкую святыню. Цяпер сюды прыехала я, за сваіх дзяцей памаліцца... Ехала з Гродна цягніком. Калі імкнешся на такое вялікае свята, дык стомы не адчуваеш.

***Алег і Людміла*** (Смалявічы): – Кожны год імкнемся сюды прыехаць, памаліцца, схадзіць да крыніцы. Адзін раз пабудзеш у Жыровічах – і сюды будзе цягнуць, як магнітам. З Божай дапамогай прыедзем на свята і ў наступным годзе.

***Наталля Дэкрэшная*** (Мінск): – Сама назва якая – "свята"! Душа сюды рвецца. А калі не трапіш – яна плача... Так склаўся лёс, што раней не магла прыехаць у Жыровічы, а сёлета атрымалася. Усе справы кінула і паехала. А калі імкнешся да святых месцаў – цяжкасцей не заўважаеш.



**Сяргей ЁРШ,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

## С.АЛЕКСИЕВИЧ: для «бывших советских» людей характерны культура борьбы и культура страдания

«Мы – люди культуры борьбы, культуры баррикад. Мы знаем, как уничтожать, проклинать, ненавидеть друг друга, но не знаем, как находить смысл в себе самих... И этот опыт борьбы больше всего мешает нам сейчас», – об этом говорила известная белорусская писательница Светлана Алексиевич, выступая с докладом на международной конференции «Кино и концепция нового человека».

По мнению писательницы, еще одно препятствие для осмысления происходящего в мире – это «культура страдания». С.Алексиевич отметила, что спрятавшись за страдание, «можно ничего не делать». Позднее С.Алексиевич стала воспринимать это явление «как способ нашего проживания действительности; если его исключить, то нас нет».

**БелаПАН**

**НАША ІНТЭРВ'Ю**

## ЛЕАНІД ШКЛЯР: "Калі б нешта выявілі, то не ў гэтым кабінеце я б цяпер сядзеў..."

**Большасць работнікаў Слонімскага кардонна-паперовага завода (63,9%) прагаласавалі за Леаніда Шкляра, такім чынам пакінуўшы яго дырэктарам на чарговы тэрмін. Другім з чатырох прэтэндэнтаў на дырэктарскае крэсла быў Пётр Саліта. Ён набраў 26,2 % галасоў акцыянераў.**



Трэба адзначыць, што за некалькі дзён да выбараў на заводзе была распаўсюджана ўлётка, у якой невядомыя заклікалі не галасаваць за Шкляра.

***— Леанід Фёдаравіч, як Вы пракаменціруеце з'яўленне за некалькі дзён да выбараў гэтай улёткі?***

– Гэта чыясьці брудная гульня. Адпаведныя органы (пракуратура, міліцыя) былі тут з праверкай. Не абмінае нас увагай і падатковая інспекцыя, правярала прадпрыемства прэзідэнцкая камісія дзяржкантролю. Калі б нешта выявілі, то не ў гэтым кабінеце я б цяпер сядзеў...

***— Вас выбралі дырэктарам на трэці тэрмін. Без лішняй сціпласці — чым тлумачыцца прыхільнасць акцыянераў да Шкляра-дырэктара?***

– На працягу апошніх трох гадоў зарплата на заводзе ў два-тры разы вышэйшая, чым на іншых гарадскіх прадпрыемствах. Больш атрымліваюць, хіба толькі, на вінзаводзе. Акрамя добрай зарплаты, акцыянерам выплочваюцца дывідэнды... Думаю, людзі бачаць у гэтым і заслугу дырэктара.

***— Якая прадукцыя завода карыстаецца найбольшым попытам у спажыўцоў?***

– Найбольшым попытам карыстаецца кардон. А вось мелавальная папера – не ідзе. У мінулым годзе за кошт заказчыка мы вырабілі 234 тоны мелавалкі, і на гэты час больш паловы яе не прададзена. Калі б гэта быў толькі наш праект – завод панёс бы вялікія страты.

***— Якую на сёння вытворчую праблему Вы выдзелілі б, як галоўную?***

– Недахоп сыравіны, макулатуры. У мінулым годзе мы спажылі яе 30 тысяч тон, а патрэбна было ў разы паўтары больш. Хаця, для параўнання, па ўсёй Беларусі Белкапсаюз сабраў усяго 36 тысяч тон макулатуры.

***— Ці магчыма ў перспектыве, што КПЗ будзе рабіць газетную паперу?***

– Не. У нашай краіне няма тэхналогіі вытворчасці газетнай паперы, хоць рэсурсы ёсць. У прагpаме развіцця прадпрыемства да 2015 года мы, між іншым, прапанаваўалі будаўніцтва ў рэспубліцы цэлюлознага камбіната. Але "зверху" прамаўчалі.

***— І апошняе, ці ёсць у Вас нейкае захапленне, хобі?***

– Мусіць, няма. У раёне вёскі Якімавічы ў мяне ёсць лецішча. У вольны час люблю там пакорпацца ў зямельцы. І ўвогуле, стараюся часцей бываць бліжэй да прыроды.

**Мікола КАНАНОВІЧ**

**ПОЛИТИКА**

## Выборы недействительны

**Центральная комиссия по выборам президента Республики Беларусь, признавая выборы состоявшимися (в них приняло участие более половины граждан, внесенных в списки избирателей — 4 млн. 804 человека, или 53,02%), в то же время, признала недействительными итоги голосования за кандидатов в президенты — из-за допущенных в ходе выборов нарушений, повлиявших на окончательные результаты.**

При этом Центральная комиссия отметила, что государственные органы препятствовали свободному осуществлению гражданами республики права избрать президента страны. Избирательная кампания проходила в отсутствие права свободного и всестороннего обсуждения избирательных программ кандидатов в президенты, ведения агитации и так далее. Кроме того, как отмечается в постановлении Центркома, один из кандидатов в президенты – Зенон Позняк – нарушил Закон о выборах президента, «допустив распространение ложных сведений о другом кандидате в президенты и деятельности Центральной комиссии, а также публичные призывы к бойкотированию выборов».

Центральная комиссия постановила назначить повторные выборы президента Республики Беларусь в течение трех месяцев после основных выборов с повторным выдвижением кандидатов в президенты.

**БелаПАН**

**ІНФАРМБЮРО**

## Плаціць прыйдзецца больш

**У траўні павысіліся памеры збораў з уладальнікаў транспартных сродкаў за паслугі, якія аказвае Дзяржаўтаінспекцыя.**

Цяпер, каб атрымаць нумарныя знакі на аўтамабіль, прыйдзецца заплаціць 3,6 млн. руб. За знакі павышанай якасці Д, К, М трэба будзе выкласці ажно 8,5 млн. руб, за нумарныя знакі "транзіт" – 500 тыс. руб. Кошт нумарных знакаў на матацыкл складае 1 млн. руб., а калі вы захочаце набыць знакі са светаадлюстравальнай паверхняй, то прыйдзецца заплаціць 2,4 млн. руб., а на прычэп – 1,5 і 3,5 млн. руб. адпаведна.

Тэхнічны пашпарт транспартнага сродку новага ўзору каштуе ўжо 1,5 млн. руб., старога – 25 тысяч, знак адрознення Рэспублікі Беларусь (BY) – 200 тысяч.

Перш чым ехаць у ДАІ на тэхагляд аўтамабіля, неабходна мець квіток на суму 125 тыс. руб., за матацыкл і прычэп – 50 тысяч. Акрамя гэтага трэба заплаціць 150 тысяч рублёў за сертыфікат аб яго праходжанні.

Каб ісці здаваць экзамен у МРЭА ДАІ па правілах дарожнага руху і ваджэнню аўтамабіля, неабходна запасціся квітком на суму 170 тысяч рублёў, па ваджэнню матацыкла – 100 тысяч. А вадзіцельскае пасведчанне новага ўзору з талонам да яго каштуе 1,6 млн. руб., старога – 30 тысяч. Кожная камп'ютэрная паслуга па рэгістрацыі, перарэгістрацыі, зняцці з уліку транспарту, выдачы даведак аб транспарце, які знаходзіцца ў вышуку, каштуе цяпер 60 тысяч рублёў. Транспарціроўка пашкоджаных транспартных сродкаў па заяве ўладальнікаў абыйдзецца ў 800 тыс. руб., а дастаўка транспарту на штрафную стаянку – 500 тысяч рублёў.

За нумарныя знакі і пасведчанні аб рэгістрацыі на аўтамабілі і мотакаляскі інвалідаў, якія атрыманы бясплатна ці на ільготных умовах, зборы не бяруцца. Захавалася ільгота аб аплаце 50% устаноўленых ставак за знакі, якія выдаюцца на транспартныя сродкі ветэранам і інвалідам вайны, пенсіянерам па ўзросту.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

 

**ФУТБОЛ. ПЕРШАЯ ЛІГА**

# ЯК АЎТСАЙДЭР СЛОНІМЦАЎ ЗДЗІВІЎ

## "Зорка-ВА-БДУ" (Мінск) — "Камунальнік" (Слонім) — 1:1

**Мінск. 22 траўня. Стадыён "Працоўныя рэзервы". 100 гледачоў.**
**Суддзя М.Архіпаў (Жодзіна).**
**Камунальнік: Бекіш, Купрыкаў, В. Дзегіль, А. Дзегіль (Уладзімірскі, 67), Селіванаў, Пагоцкі, Ягаўцоў (Савіцкі, 54), Дубінін, Баль (Дым, 46), Савань, Татарашвілі.**
**Галы: Папковіч (20), Татарашвілі (28, з пенальці).**



*Яўген Ягаўцоў*

"Зорка-ВА-БДУ" заставалася загадкай для кіраўніцтва "Камунальніка" аж да мінскай гульні. Раней гэтым камандам не даводзілася сустракацца. А знаходжанне "Зоркі" сярод аўтсайдэраў чэмпіянату яшчэ не сведчыла пра яе слабасць. У выніку, замест трох запланаваных ачкоў слонімцы прывезлі са сталіцы толькі адно...

Па ходу гульні слонімцам давялося адыгрывацца, бо ўжо на 20 мінуце яны прайгравалі. Гаспадары поля скарысталі няўзгодненую гульню нашых абаронцаў і адкрылі лік... Аднак не прайшло і дзесяці мінут, як адна з атак "Камунальніка" прывяла да прызначэння ў вароты "Зоркі-ВА-БДУ" пенальці. У штрафной пляцоўцы, у барацьбе за мяч, быў збіты Яўген Ягаўцоў. Такую выдатную магчымасць павялічыць свой бамбардзірскі рахунак Георгій Татарашвілі не ўпусціў — 1:1. Гэта яго шосты мяч у шасці гульнях!

Больш галоў не было. Нягледзячы на тое, што ў другой палове гульні футбалісты "Камунальніка" дамінавалі на полі, прарваць абарончыя рэдуты гаспадароў ім не ўдалося. — "Зорка-ВА-БДУ" — каманда недрэнная, маладая, — сказаў пасля матча галоўны трэнер "Камунальніка" Аляксей Шубянок. — Мінчане добра настроілася на гульню. Ігралі прыстойна. Проста дзіўна, чаму такая каманда знаходзіцца ўнізе турнірнай табліцы...".

Наступную гульню "Камунальнік" праводзіць у Слоніме ў нядзелю, 30 траўня, з "Пінскам-900" (пачатак у 17.00). Моцная пінская каманда яшчэ нядаўна была лідэрам чэмпіянату, але ў яе з'явіліся фінансавыя праблемы, якія не маглі не паўплываць на гульню. Тым не менш, слонімскі матч абяцае быць бескампрамісным. Калі прайграюць госці, ім ужо будзе не проста вярнуцца ў групу лідэраў. А "Камунальніку" дома губляць ачкі нельга.

**Сяргей ЁРШ,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**

## ТУРНІРНАЯ ТАБЛІЦА
### пасля 6-га тура

| | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. Дынама-Юні | 6 | 4 | 2 | 0 | 12:6 | 14 |
| 2. Граніт | 6 | 4 | 1 | 1 | 11:6 | 13 |
| 3. Камунальнік (Сл.) | 6 | 3 | 2 | 1 | 9:5 | 11 |
| 4. Камунальнік (Св.) | 6 | 3 | 2 | 1 | 7:6 | 11 |
| 5. ЗЛіН | 6 | 3 | 1 | 2 | 11:6 | 10 |
| 6. Ведрыч-97 | 6 | 2 | 4 | 0 | 11:7 | 10 |
| 7. Пінск-900 | 6 | 2 | 2 | 2 | 7:5 | 8 |
| 8. Вейна-Днепр | 6 | 2 | 2 | 2 | 6:6 | 8 |
| 9. Палессе | 6 | 2 | 2 | 2 | 6:8 | 8 |
| 10. Рагачоў | 6 | 1 | 4 | 1 | 4:3 | 7 |
| 11. Тарпеда | 6 | 1 | 3 | 2 | 7:10 | 6 |
| 12. Нёман | 6 | 1 | 2 | 3 | 6:9 | 5 |
| 13. Керамік-Бяроза | 6 | 1 | 2 | 3 | 3:7 | 5 |
| 14. Орша | 6 | 0 | 4 | 2 | 6:10 | 4 |
| 15. Зорка-ВА-БДУ | 6 | 0 | 3 | 3 | 5:10 | 3 |
| 16. Віцьбіч-Дынама-Энерга | 6 | 0 | 2 | 4 | 5:12 | 2 |

**сезон-99 • 1-я ліга • сезон-99 • 1-я ліга**

**Вынікі астатніх матчаў тура:**

Орша — Нёман — 2:4
Пінск-900 — Дынама-Юні — 1:2
Керамік-Бяроза — Камунальнік Св. — 0:1
Ведрыч-97 — Тарпеда — 4:1
ЗЛіН — Рагачоў — 1:0
Палессе — Граніт — 0:2
Вейна-Днепр — Віцьбіч-Дынама-Энерга — 1:0

## Масты выйгралі "бітву" у Оршы

**Мастоўскі "Нёман" атрымаў першую перамогу ў гэтым сезоне ды яшчэ на чужым полі.**



Гульня з суседам па турнірнай табліцы "Оршай" была поўная драматызму. Ужо на 13 мінуце лік адкрыў мастаўчанін Аляксандр Вярбіцкі, а на 38 мінуце Сяргей Волек дводзіць лік да 2:0. Аднак яшчэ да перапынку гаспадары поля з пенальці скарачаюць разрыў у ліку. У канцы першага тайма "Орша" не рэалізавала чарговы пенальці (мяч трапіў у штангу).

Каб не выпрабоўваць больш лёс, "Нёман" замацаваў сваю перавагу. На 64 мінуце гол забіў Алег Вярбіцкі. А переможную кропку паставіў Аляксандр Давідовіч, які за дзве мінуты да канца гульні зняў усе пытанні пра пераможца — 4:2. Цяпер мастоўская каманда з 15-га месца ў турнірнай табліцы перамясцілася на 12-е.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

**НАВІНЫ ШАШАК**

**У Пінску прайшоў чэмпіянат Беларусі па шашках у першай лізе. На ім паспяхова згуляў слонімец Васіль Гарасюк, які заняў шостае месца і выканаў норму майстра спорту.**

На адкрытым першынстве вобласці сярод пазашкольных устаноў трэцяе месца заняла каманда слонімскага цэнтра дзіцячай і юнацкай творчасці. У яе складзе гулялі слонімскія школьнікі Аня Барысік, Каця Амагамедава, Сяргей Чэкан, Юрый Курцэвіч і Саша Іваноў.

**Аляксандр АНІСЬКА**

## Слонимчане на солигорском ринге

**Недавно в Солигорске завершились VII Республиканские юношеские соревнования по боксу (ребята 1982-83 г. р.). За сборную команду Гродненской области выступало трое слонимских спортсменов.**

Бронзовую медаль в весовой категории 67 кг завоевал ученик СШ № 8 Алексей Рахунок. Ученик этой же школы Дмитрий Трус, выступая в весовой категории 51 кг, провел на ринге три боя и занял второе место, выполнив норматив кандидата в мастера спорта. Дмитрий был награжден серебряной медалью.

**Владимир ПИРОЖНИК,**
**тренер ДЮСШ № 1**

## Перамог фаварыт

**22-23 траўня на полі слонімскага СПТВ-189 прайшлі футбольныя спаборніцтвы сярод дваровых каманд па месцу жыхарства. У іх удзельнічалі хлопчыкі 1988 года нараджэння і малодшыя.**

Як і чакалася, перамог фаварыт турніру ФК "Талент" (трэнер — Руслан Корнеў). Другое месца заняла каманда "Зеніт", а трэцяе — "Крыстал". Кожная з васьмі камандудзельніц атрымала ў падарунак ад арганізатараў футбольныя мячы.


*Момант гульні за трэцяе месца*

Былі вызначаны і лепшыя ігракі турніру ў розных амплуа. Лепшым галкіперам быў прызнаны Ігар Нарута ("Талент"), абаронцам — Міхаіл Аўдонін ("Зеніт"), паўабаронцам — Алег Нагула ("Талент"), нападаючым — Дзмітрый Падгорны ("Крыстал"). Сярод бамбардзіраў не было роўных іграку ФК "Талент" Сяргею Альбяртовічу, на рахунку якога 11 забітых мячоў.

Пераможца — ФК "Талент" неўзабаве прыме ўдзел у адборачным турніры рэспубліканскіх спаборніцтваў "Юнацтва", які пройдзе ў Гродне.

**Алег ТАЧОНЫ,**
**Мікалай СУПРУН (фота)**


*Уручэнне прызоў*

**ФЕЛЬЕТОН**

# НУ, КАЛАБОК, ПАЧАКАЙ!

Укінуўшы ў сумку пустую пляшку, Антось выйшаў з зямлянкі. Навокал, нібы злая цешча, шыпеў лес. Раптам з-пад ядлаўцовага куста выкаціўся Калабок.

- А-а-а!- радасна ўсклікнуў Антось.- Зараз я цябе з'ем. І не думай, аладка недапечаная, адгаворвацца: я ад бабулі ўцёк, я ад дзядулі ўцёк. Ад мяне не ўцячэш. Тут табе не казка, дзе можна плясці ўсякія небыліцы. Тут, каб ты ведаў, суровае лясное жыццё. А мне вельмі хочацца выпіць і закусіць.

- Няма праблем! – запэўніў Калабок. – Ідзі за мной, і ўсё табе будзе.

- Ну глядзі, пухнаты! – прамовіў з пагрозай Антось і пакрочыў услед за Калабком па рэдкім, як разведзеная смятана, снезе.

- Не разумею я цябе, - зноў загаварыў Калабок. - Малады мужчына, а жывеш нібы мядзведзь у лясной бярлозе. Ні хаты, ні сям'і.

- Па-першае, гэта не твая справа. А па-другое, была ў мяне і хата, і сям'я.

- Ага, і дзве ходкі ў зону былі. Я ўсё пра цябе ведаю. У 1994 годзе сядзеў за крадзёж. У 1998 годзе зноў сеў па той жа прычыне. Год нары шліфаваў. Не лепшая ў цябе і жонка. У 1989 годзе на тры гады села за махлярства. У 1995 годзе – за крадзёж у буйных памерах. Цяпер на волі. П'е і бадзяецца без справы. Акурат, як і ты. З той хіба розніцай, што ў яе бацькі жывыя, і яна сядзіць на іх шыі. Абое вы пазбаўлены бацькоўскіх правоў. Чацвёра дзяцей знаходзяцца ў інтэрнаце.

- Яшчэ адно слова — і я з цябе блін зраблю! – сурова прыгразіў Антось.

Між тым увайшлі ў Дзятлава.

- Вунь твая жонка ідзе, - пазнаў Калабок Антосеву Марыну. - У яе грошы ёсць. Бацькі далі.

- Маладзец, пухнаты! Калі ты такі чароўны Калабок, то будзеш суправаджаць мяне да вечара, а потым я цябе адпушчу. І не думай адмаўляцца!

Калабку нічога не заставалася рабіць, і ён сумна пакаціўся па тратуары.

Марына купіла пляшку, і яны з Антосем хуценька высмакталі віно.

- Малавата, - са скрухай прамовіў Антось. - Але нічога, дабавім. У мяне план ёсць. Давай сходзім на Курпешскі хутар да знаёмай кабеты. Праўда, яе дома няма. У Дзятлаве сёння бачыў.

Да Курпешскага хутара дабрылі неўпрыкмет. Антось ададраў з акна штапікі, выняў шыбы і ўлез у хату. Тут яны з Марынай некалі гасцявалі, бо мелі з гаспадыняй прыязныя адносіны. Дапамагалі ёй садзіць бульбу, калі яшчэ муж быў жывы. Цяпер ён ужо на тым свеце.

На роздум часу не было, і Антось пачаў хапаць усё, што трапіць пад руку. Прыхапіў цэлафанавы пакет, у якім было чатыры кілаграмы цукру. Запхнуў у сумку. Адчыніў куфар, а там ажно шэсць пачкаў пральнага парашку. А пад парашком, як жабы пад карчом, ляжалі зялёненькія даляры. Аб такім шчасці Антось і марыць не мог. Грошы запхнуў у кішэню. Знайшоў кавалак скваркі – таксама туды. Словам, улез у акно жабраком, а вылез багацеем.

- Хутчэй адсюль, а то гаспадыня можа вярнуцца, - падбегшы да кустоў, сказаў Марыне. – Не дарма прыйшлі.

- Зладзеі! - абурыўся Калабок.

- Пачакай, я сёння табой закушу, ляпёшка сырая! Вось толькі вып'ем.

- Дык жа няма чаго, - сумна сказала Марына.

- Ёсць! Усё ёсць, мая ты журавінка. І грошы маем! – ён працягнуў жонцы сто тысяч беларускіх рублёў, а потым пакорпаўся ў кішэні і выцягнуў на свет 430 даляраў. Таксама аддаў ёй. З сумкі дастаў пляшку гарэлкі.

Яны пілі чужую гарэлку, закусвалі чужым салам і былі шчаслівыя. Палічылі, што калі загнаць каму-небудзь парашок і цукар, то за гэтыя грошы ды за 430 даляраў можна будзе піць і закусваць цэлы год.

На парашок і цукар пакупнікі знайшліся адразу, як толькі саладкая парачка ў суправаджэнні Калабка ўвайшла ў Дзятлава. Купілі віна, і баль працягваўся. Яны хадзілі па вуліцах услед за Калабком, які каціўся куды хацеў. Ён і прывёў Антося з Марынай да міліцэйскага паста.

- Адкуль і куды , - спыталі міліцыянеры ў п'яных бадзяг.

- На кудыкіну гару, - павеламілі канкрэтны адрас шчаслівыя.

- Добра, - згадзіліся міліцыянеры. Яны абшукалі кішэні і знайшлі крадзеныя даляры. Парачку запрасілі ў свой "гатэль" на адпачынак.

Што там казаць, турма не Канарскія астравы, але Антосю і Марыне да яе не прывыкаць.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**